# Юным о тайном

**"Мой парень требует интимной близости. А мне этого не надо. Разрыва я не хочу. Несмотря на взаимную симпатию, к этой проблеме мы относимся по-разному. Есть ли различия в отношении к сексу у юношей и девушек?"**

На этот вопрос сексолог И.С.Кон отвечает, что при всех индивидуальных и культурно-исторических вариациях мужской стиль сексуальной жизни чаще бывает предметно-инструментальным, а женский — эмоционально-экспрессивным.

Не касаясь проблем семейно-ролевых функций, подчеркнем, что именно в области сексуального поведения мужчин и женщин такое коренное различие наиболее ощутимо, причем в юности и ранней молодости оно наиболее велико. Как и в чем это проявляется?

В общем виде можно сказать, что для юноши все, что связано с половым влечением, является больше средством, чем целью (например, средством избавления от сексуальной напряженности, способом самоутверждения и самовыражения, средством получить высокую оценку у сверстников, и т.д.). Другими словами, для юношей, в отличие от девушек, характерна меньшая сексуальная вовлеченность и меньшая степень интимного психологизма.

У представительниц прекрасного пола (не потому ли он и прекрасен?!) все по-иному: любовь, влечение, сексуальные переживания — все это скорее цель, чем средство. Женская сексуальная удовлетворенность значительно больше, чем у мужчин зависит от одухотворенности половой связи, от нежности партнера и его эмоциональности.

Почему же эти различия так важны для правильного понимания психологии сексуальных отношений в юности?

Во-первых, потому что юноши, не зная и не понимая особенностей женской сексуальности, неосознанно переносят все те реакции, которые характерны для них, на противоположный пол, ожидая от девушек точно такого же отношения сексуального контакта. И если эти ожидания не оправдываются, то юноша объясняет это чем угодно, только не особенностями женской психологии и сексуальности. Может быть, девушка и не плохо к нему относится, более того, он ей симпатичен и приятен, но накал ее чувств не настолько силен, чтобы пойти навстречу желанию своего парня. Значит, путь один: не торопить события и дать возможность своей подруге эмоционально созреть для интимной близости, помня о том, что женщина и психологически, и эмоционально устроена иначе, чем мужчина.

Во-вторых, пубертанный период (13-14 лет) по-разному влияет на психологию межличностных отношений девушек и юношей. Если для первых — это пора по преимуществу плотонической любви и романтических ожиданий, то для вторых — это пора, когда на смену безразличию к девочкам приходят совершенно новые ощущения, связанные с нарождением полового сознания. Именно в этот период растет число немотивированных насильственных преступлений среди подростков, юношей и даже число самоубийств.

Все эти ощущения напрямую связаны с формированием сексуальности. Одно из главных психологических противоречий этого процесса состоит в том, что, с одной стороны, юношу неудержимо влечет к женскому телу, а с другой стороны, он испытывает панический страх перед тем, что ему предстоит совершить. Вот тут уже девушка, понимая своеобразие психосексуальных реакций юноши, должна быть более терпимой к нему, более чуткой и внимательной.

Итак, подведем итог. Как бы ни был эмоционален и сентиментален мужчина, такова всего возрастная линия его сексуального поведения прочерчивается так: влечение — взаимопонимание — нежность. Иначе у женщин: эмоциональный всплеск —духовная близость и лишь потом — влечение.

● **Ваша здароўе**

# Дапаможа настой валяр'яну

Методыка аздараўлення пры дапамозе валяр'янавых капель вельмі простая: трэба толькі ўдыхаць 1—2 разы кожнай ноздрай (нюхаць) валяр'янку перад сном. Для гэтага скарыстайце чысты настой на спірце, а не на эфіры. І без прымесі іншых сардэчных лекаў. Па меры набывання вопыту, магчыма, вы знойдзеце для сябе іншую дозу для ўдыхання. Калі на наступны дзень баліць галава, гэта значыць, што доза вялікая, а неабходна яе паменшыць, робячы неглыбокія ўдыхі (а затым паступова паглыбіць іх).

**Што дае гэты метад:**

— на працягу 3-4 месяцаў арганізм чалавека аздараўляецца, самаадчуванне яго значна паляпшаецца;

— спыняюцца болі і непрыемныя адчуванні ў вобласці сэрца;

— умацоўваецца нервовая сістэма;

— памяншаюцца спазмы сасудаў галавы;

— паляпшаецца зрок (знімаецца памутненне хрусталіка вока);

— ліквідуецца бяссонніца.

Нельга нюхаць валяр'янку, калі неабходна быць бадзёрым. У гэтым выпадку барацьба са сном пасля працэдуры можа прывесці да нервовага расстройства.

Значнае паляпшэнне стану здароўя наступае ўжо пасля некалькіх тыдняў выкарыстання валяр'янкі.

# Правер сябе сам

**Хваробы рэдка наступаюць быццам гром сярод яснага неба. Большасць захворванняў фарміруюцца паступова і маюць сімптомы і прыметы, што папярэджваюць аб іх наступленні. Праверце стан уласнага здароўя з дапамогай тэста венгерскіх медыкаў.**

Чырванавата-карычневыя пазногці сведчаць аб захворванні нырак. Пакуль хвароба не набыла цяжкую форму, дастатковым можа быць курс па ачысцы крыві працягласцю ў некалькі тыдняў. Купіце ў аптэцы неабходны для гэтага лячэбны чай. Калі ж сімптомы будуць устойлівыя, значыць, неабходна прайсці медыцынскае абследванне.

**Патрэсканыя вусны** сведчаць аб недахваце вітамінаў і мінеральных рэчываў. У такіх выпадках у арганізме назіраецца няхватка вітаміну $B_{12}$, кальцыю ці жыццёва важнага магнію. Пры іх недахваце скура становіцца вельмі сухой. Павялічце вільготнасць паветра ў кватэры. Змазвайце вусны тлустым крэмам ці вазелінам. Ешце пабольш малочных прадуктаў і страў, прыгатаваных з выкарыстаннем дражджэй.

**Налёт на языку** сведчыць аб прастудзе ці хваробе страўніка.

**Тоўстая шыя** — прымета захворвання шчытападобнай залозы, якое выклікана недахватам ёду. У час прыгатавання ежы выкарыстоўвайце ёдавую соль. Часцей ешце марскую рыбу ці прымайце ёд у форме таблетак.

**Перхаць на скуры** гаворыць пра недахват вітамінаў А ці В, а таксама аб гарманальнай недастатковасці. Ешце пабольш салаты і садавіны... Пазбягайце араматызаванага мыла і адзення са штучных тканін.

**Белыя плямы** на скуры могуць быць вынікам недахвату вітаміну $B_{12}$, прыкметай дыябету ці захворвання шчытападобнай залозы. Калі белыя плямы распаўсюдзіліся па ўсім целе ці гэтая з'ява назіраецца доўгі час, абавязкова трэба звярнуцца да ўрача.

**Распухлыя шчыкалаткі і ікры** гавораць аб залішнім утрыманні вады ў арганізме. Гэта вынік захворвання сэрца ці нырак. Прычынай можа быць таксама занадта доўгае сядзенне ці знаходжанне на нагах. Па вечарах рабіце кампрэс і масіруйце ногі. Хадзіце па лесвіцы замест карыстання ліфтом. У час працяглых паездак на транспарце пабольш рухайце канечнасцямі і па магчымасці падымайцеся. Дома трэніруйце ногі, абыходзьце кватэру на дыбачках. Насіце зручны абутак. Пажылым людзям, калі гэта рэкамендуе ўрач, трэба насіць прагумаваныя панчохі.

● *А вы чулі пра гэта?*

## Механізацыя скасавання шлюбу

**У Амерыцы аўтаматызавана, здаецца, усё. Нават развод тут цяпер можна атрымаць "па аўтамату".**

Першыя "шлюбаскасавальнікі" ўжо устаноўлены там у Арызоне. Дастаткова заплаціць 5 долараў, націснуць некалькі кнопак, адказаць на некалькі пытанняў — і праз 10 хвілін вашы паперы для разводу гатовыя.

Гэта значна эканоміць не толькі час, але і грошы: паслугі адваката, які прысутнічае на звычайным працэсе скасавання шлюбу, каштуюць дорага.

## Урад ЗША нелігітымны?

Маляр Карл Дзюмонд — сапраўдны бядняк, усё яго жыццё прысвечана барацьбе з амерыканскім урадам за ўкрадзены трон. Справа ў тым, што адзін з продкаў Дзюмонда ў 1681 годзе падпісаў з англічанамі, французамі, іспанцамі і некалькімі індзейскімі плямёнамі дагавор аб прысваенні яму каралеўскага тытула і права царствавання на Паўночнаамерыканскім кантыненце. Самае смешнае ў гэтай гісторыі тое, што некаторыя высокапастаўленыя юрысты і чыноўнікі дэпартамента ЗША згодны з прэтэнзіямі Дзюмонда і лічаць, што ўрад Амерыкі нелігітымны.

## Можна замуж і не выходзіць...

У сучаснай жанчыны сапраўды з'явілася магчымасць выбару: можна выйсці замуж, а можна прысвяціць сваё жыццё сабе самой. Раней жанчына выходзіла замуж, таму што шлюб для яе быў адзіным сродкам існавання ў фінансавым плане. У мужа з жонкай на працягу жыцця адносіны маглі паляпшацца або пагаршацца, але шлюб не распадаўся. Яны будавалі сумеснае жыццё і ўтваралі сям'ю. І раптам усё змянілася.

Секс цяпер лёгкадаступны не толькі для мужчын, але і для жанчын. І слабы пол неўзабаве адкрыў для сябе цэлы свет фінансавай і эмацыянальнай незалежнасці. Гэтыя нечаканыя магчымасці сыгралі дрэнную ролю ў жыцці жанчыны.

Яна паверыла ў свае сілы, у тое, што зможа быць шчаслівай адна, незалежна ад таго, ёсць у яе жыцці мужчына ці не. І яна жыве так нейкі час, цешыцца сваім спакоем і незалежнасцю. Але калі-небудзь прыйдзе да высновы, што для жанчыны, як і дзвесце гадоў таму, самае важнае — кахаць і быць каханай.

Ні кар'ера, ні сяброўкі, ні выпадковыя сябры, ні падарожжы не выратуюць, калі няма каханя. На жаль, гэтая ісціна адкрываецца некаторым вельмі позна.




## Зямля пачала круціцца хутчэй

Па разліках амерыканскага геафізіка Бенджаміна Фонга, у апошнія дзесяцігоддзі чалавек назапасіў столькі вады ў штучных вадасховішчах, што хуткасць вярчэння Зямлі крыху павялічылася.

За апошнія 40 гадоў у вадасховішчах накоплена прыблізна 10 трыльёнаў тон вады. Гэтыя запасы размешчаны пераважна ў Паўночным паўшар'і. Вада аказалася адцягнутай з акіянаў. У выніку маса вады ў раёне экватара зменшылася, а ў Паўночным паўшар'і — павялічылася. У сувязі з тым, што 10 трыльёнаў тон вады прыблізілася да восі вярчэння планеты, яна, пачала круціцца крыху хутчэй. За кошт гэтага эфекту за апошнія 40 гадоў дзень паменшыўся на восем мільённых долей секунды. Вядома, гэта мала, аднак гэта — непасрэдны эфект дзейнасці чалавека.

Акрамя таго, паколькі вадасховішчы размешчаны несіметрычна у адносінах да восі Зямлі, гэтая вось таксама зрушылася: ад паўночнага полюса на 60 см на захад ад Канады. А вось гэта ўжо даволі істотна.

## "Падагрэла" мужа

Заўважыўшы, што сексуальная цяга мужа да яе пакрысе слабее, 68-гадовая бабуля 10 ўнукаў Анет Кейдэр са штата Арэгон вырашыла зрабіць сваёй палавіне сюрпрыз і падагрэць яго мужчынскі інтарэс. Ведаючы, што Бернарду падабаюцца пышныя формы, бабуля зрабіла пластычную аперацыю і павялічыла свае грудзі аж на чатыры памеры. Вынік прымусіў Анет пашкадаваць, што не зрабіла гэтага раней.

● *Куток гаспадыні*

### Салата з гуркоў і зялёнай цыбулі

*Тры гуркі, 250 г зялёнай цыбулі, два вараныя яйкі, 100 грамаў смятаны, воцат, перац, соль па смаку.*

Гуркі памыць, ачысціць, нарэзаць кавалачкамі, перамяшаць з крышанай цыбуляй, апырскаць воцатам, папярчыць, пасаліць, заліць смятанай і упрыгожыць кружочкамі яйка.

### Салата з гуркоў з соусам

*5 гуркоў, паўбутэлькі кефіру, 2 сталовыя лыжкі маянэзу, жаўток яйка, зеляніна кропу, перац, соль.*

Свежыя гуркі памыць, ачысціць, нарэзаць долькамі і паварыць у падсоленай вадзе дзесяць хвілін. Жаўток яйка, кефір і маянэз узбіць, прыправіць перцам і соллю, дадаць палову зеляніны. Соус выліць на высушаныя папярэдне, падсоленыя цёплыя гуркі. Пасыпаць перцам, зелянінай. Можна падаваць з грэнкамі.

<u>*Григорий ЛАЗУРКИН*</u>

## Рыночные страдания

*(Частушки)*

Оха! Оха!
Жили мы не плохо!
Отчего же, почему же
Захотелось жить нам хуже?

Все на рынке, как на рынке,
Здесь индейка, там свининка,
Семена, мануфактура
И продажная есть шкура,
А в кустах, что возле рынка
Продаются Танька с Нинкой.

Честные пай-мальчики
Получают "зайчики",
Проходимцы-лодыри
Загребают доллары.

С неба звездочка упала,
Девка снова честной стала:
Папа с мамой заплатили,
И что надо ей зашили.
Если спросите вы, где,
Сообщаю: в Вологде!

Наш Василий знает меру,
Никогда не перепьет:
Палец в глотку — если мокрый,
То уж больше не берет.

Раньше славно проживали:
Воровали — меру знали,
А теперя так воруют:
Под собою ног не чуют!

Хоть живем мы и убого,
Как за пазухой у Бога
Всё у нас, что надо, есть:
Только свистнуть и принесть!

Моя милка, как бутылка —
Различаю их едва:
Из-за них в кармане дырка
И кружится голова.

У моей же милочки
Ножки как бутылочки,
Кто на ножки ее глянет —
В раз на выпивку потянет!

Про Америку все пели
И догнать ее хотели:
Столько ж дать на едока
Мяса, масла, молока,
И, конечно бы, догнали,
Только яйца помешали!

**"Беларускі Усход"**. Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 7 ліпеня 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 5479 ас. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 27.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**